# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 1 (1651) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 3 СТУДЗЕНЯ 1988 г. ЦАНА 12 зл.



У родным зацішшы. Фота М. Гайдука.

## АБ РОДНЫМ

Шаноўныя сябры!

Стаім на парозе Новага года. І хто ж у такой сітуацыі не аглянецца на пройдзены шлях? І хто ж не старaецца заглянуць у тую будучыню, якую нясе з сабой 1988 год? Думаю, што кожны! Ну і які ж быў мінулы год для беларусаў? Зразумела, што адзін чалавек не мае права даваць адказ ад імя ўсёй беларускай грамады. І ўсё ж такі няма сумненняў, што большасць беларусаў, калі і не палепшыла свайго быту, то прынамсі ўтрымала тую ступень дабрабыту, якой дабіліся ў мінулых гадах. У далейшым многія беларусы будавалі прыгожыя дамы, куплялі салідную мэблю, куплялі добрую вопратку. А былі і такія, што накопленыя залатоўкі мянялі на золата ці валюту. У далейшым беларуская моладзь вучылася ў школах розных тыпаў. Многія з маладых беларусаў пачалі вучыцца ў вышэйшых навуковых установах або закончылі гэтыя уста-

(Працяг на стар. 5)

## 32 гады з „Нівай"

Сёння можам напісаць аб ім усё: нічога ён не скрэсліць, не аблае, што здымак змясцілі на першай старонцы і што наогул змясцілі яго. Таму фактычна толькі сёння можам „дэканспіраваць" на старонках „Нівы" нашага шматгадовага шэфа, галоўнага рэдактара штотыднёвіка „Ніва" Георгія Валкавыцкага, жыццё і грамадская дзейнасць якога 32 гады была непарыўна звязана з „Нівай" і БГКТ.

Хто ён, гэты чалавек, што пасля 34 гадоў журналісцкай працы адышоў на заслужаны адпачынак?

Нарадзіўся ў паэтычнай краіне, якая завецца Белавежай, на зямлі, якая родзіць мастакоў і паэтаў. На яго долю не выпала лёгкае жыццё. Годам яго нараджэння быў год 1923, і ўжо маладым хлапцом давялося яму перажыць і ўласную „смерць", калі немцы вялі на расстрэл, і быць салдатам Чырвонай Арміі (у яго вачах да сёння стаяць барэльефы мёртвых салдацкіх твараў, па якіх праехалі танкі).

Георгій Валкавыцкі з'яўляецца адным з нямногіх у Польшчы, які ўдалося закончыць элітарную вышэйшую школу — Літаратурны інстытут імя Максіма Горкага ў Маскве. У верасні 1954 года ён распачаў працу ў Беластоку. Працаваў у „Газеце Беластоцкай", ды, нядоўга, у аддзеле прапаганды Ваяводскага камітэта ПАРП, дзе кіраваў сектарам культуры. І тады атрымаў партыйнае даручэнне: скамплектаваць рэдакцыю і наладзіць выданне беларускага штотыднёвіка „Ніва". Першы нумар „Нівы" выйшаў у свет 4 сакавіка 1956 года. Галоўным рэдактарам быў Георгій Валкавыцкі.

З імем Валкавыцкага звязана ў Народнай Польшчы не толькі стварэнне і рэдагаванне штотыднёвіка „Ніва". Не было ніводнай праявы ў дзейнасці Беларускага таварыства, якая не была б звязана з ім. Гэта ён згуртаваў маладых літаратараў і мастакоў беларускага паходжання ў літаратурна-мастацкім аб'яднанні „Белавежа", а фактычна, вакол

(Працяг на стар. 4)



З НОВЫМ, ДОБРЫМ ГОДАМ!




# АБ ПЕРШЫМ ДНІ АКУПАЦЫІ

**АБРАЗОК ДРУГІ**

Праз Бандары ідзе нямецкая калона. Я з чатырма сябрамі сяджу на панадворку ў „Паўлавых“. Углядваемся праз плот на немцаў, якіх бачым першы раз у жыцці. Усе маладыя, усе прыгожыя, моцна зялёныя мундзіры. Многія пазнімалі шапкі, заткнулі іх за пагоны або за паясы. Наваскаваныя чорныя боты. Усе маюць закасаныя да локцяў рукавы мундзіраў. Сядзім з разяўленымі ратамі: Пеця, Сцёпа, Валодзя, Юлік і я. Сядзім і паціху размаўляем.

— Гляньце, як прут, але салдаты!

— Ну і што з таго, што прут? А екіе з іх салдаты, калі яны без вінтовок?!

І толькі цяпер усе ўсведамляем сабе, што немцы сапраўды без вінтовак. Яшчэ ўчора мы бачылі чырвонаармейцаў з даўжэзнымі вінтоўкамі і заткнутымі на іх штыкамі, а ў немцаў няма вінтовак ні ў руках, ні на плячах.

— Ну, то екіе ж з іх салдаты, калі яны вінтовок ні мают, то іх навет бабы папрут назад.

— Гляньце, іх вінтоўкі на грудзях!

— Што, гэты камарыкі то вінтоўкі?

— Ну, але вінтоўкі.

— А чы ж з такого камарыка заб'е чалавека?

— Чом не заб'е? Калі забівае з ліворвера, то заб'е і з гэтаго камарыка.

— Та ж ведомо, што з ліворвера заб'е з малых адлегласцей, а здалёк то ні толькі ні заб'е, але ніякае шкоды ні зробіт.

— Ну то чом саветы ад іх уцікают? Тыя ж мают вінтоўкі, а немцы ні мают?!

— Уцікают? Ні ўцікают. Гэто такая такціка. Саветы адышлі можэ да Елоўкі. Ну, можэ да Свіслачы. Хібо так на вёрст сорок, каб немцоў у мешок уцягнуць. А калі ўжо ўсіх уцягнут, то так дадут, што ні адзін жывы ні астанецца. Гэто такціка, так мой татко казаў.

— Лепш каб не варочаліся саветы, — кажа Пеця Бура, які быў заўсёды слабым вучнем.

— Чаму лепш?

— А том, што зноў трэбо будзе хадзіці ў школу.

— А думаеш, што пры немцах ні трэбо будзе хадзіці ў школу?

— Напэўно ні трэбо будзе хадзіці. Што ты думаеш, што немцы будут цебе ўчыці? Ены толькі сваіх дзіцей вучат, а да нас ім нема ніякаго дзела. Як хочэш, так сабе і жыві.

— Э, там, саветы напэўно вернуцца.

— Ну, а калі, думаеш, вернуцца?

— Ну, можэ за тыдзень.

— Што ты плецеш? За які тыдзень? Напэўно вернуцца за тры або два дні, а можэ яшчэ вернуцца сегодне вечаром.

Тым часам раздаецца гул матораў. Калону немцаў абганяе штук дванцаць матацыклаў з прычэпамі. На кожным з матацыклаў сядзіць па трох немцаў. Усе маюць на галовах глыбокія каскі. Перад тымі, што сядзяць у прычэпах, стаяць на ножках кулямёты. Нас абдае густым пылам, і на працягу некалькіх мінут нічога не бачым. Калі ўрэшце матацыклы зніклі і пыл рассеяўся, то ўбачылі, што вуліца апусцела. Выглядаем праз плот і бачым, што калона немцаў дайшла да канца вёскі і салдаты кінуліся ў бок рэчкі. Толькі чалавек дванцаць асталося на вуліцы. Асцярожна выходзім з панадворка і памаленьку пад платамі прыбліжаемся да нямецкіх жаўнераў. А яны, пазнімаўшы з грудзей аўтаматы, гергічуць і вымаюць з кішэняў плоскія банкі. Адкрываюць іх і вымаюць з сярэдзіны карычневы шакалад. Пачынаюць есці. Адзін з немцаў, апаражніўшы баначку, закрывае яе і шпурляе ў наш бок. Мы кідаемся да банкі. Першым хапае банку даўгавязы Пеця Бура. Адкрывае яе і дае нам усім панюхаць. Вельмі ж смачна пахне! Пеця выцягвае з банкі карычневую паперу і совае яе ў рот. Пачынае жа[illegible]аць.

— Ну як, смачна? — пытаем з зайздрасцю.

Пеця жуе даўжэйшую хвіліну, пасля выплёўвае яе ў руку і хавае ў кішэню.

— На пачатку, — кажа, — была смачна, а пад канец горка. Пажду, як высахне — зноў пажую.

Немцы пазіраюць на нас, нешта гергічуць і пасля, як па камандзе, шпурляюць у наш бок пустыя шакаладныя банкі. Кідаемся на вулічны пясок і кожны з нас хапае прынамсі адну банку. Задаволеныя, вяртаемся на сярэдзіну вёскі і пазіраем у бок рэчкі, дзе немцы, распрануўшыся дагала, не зважаючы на жыхароў вёскі, ходзяць па беразе, лезуць у ваду або сядаюць ці лягаюць на траву. Некалькі немцаў грае на губных гармоніках. Тыя немцы, што ў рэчцы, паліваюцца вадой, папіхаюцца, ныраюць, рагочуць, крычаць, дужаюцца.

Мы паспрабавалі падыйсці да рэчкі, аднак адзін з немцаў, грозна глянуўшы на нас, патрос у наш бок кулаком, і мы падаліся назад.

**Алесь Барскі**




Галоўнае праўленне БГКТ паведамляе, што па прыкладу мінулых гадоў арганізуе для членаў і сімпатыкаў БГКТ конкурс „Беларуская песня '88“. Арганізатары — апрача ГП БГКТ — рэдакцыя тыднёвіка „Ніва“ і праўленні аддзелаў БГКТ, суарганізатары: Аддзел культуры і мастацтва Ваяводскай управы ў Беластоку, Ваяводскі дом культуры, дамы і асяродкі культуры ў ваяводстве, грамадскія арганізацыі і ўстановы.

Мэта агляду — распаўсюджванне аматарскай мастацкай дзейнасці, папулярызацыя народных і сучасных беларускіх песень, выдаўліванне таленавітых адзінак.

У аглядзе „Беларуская песня '88“ бяруць удзел салісты і калектывы вакальныя і вакальна-інструментальныя (ад дуэтаў да актэтаў; у выпадку, калі ў калектыве крыху больш чым 8 асоб, ён можа прымаць удзел на такіх жа ўмовах). Узрост удзельнікаў — ад 14 год (уключна з моладдзю з сярэдніх школ). Удзельнікі падрыхтоўваюць дзве беларускія песні (фальклорныя ці сучасныя) і спяваюць іх на аглядзе па-беларуску. Лаўрэаты фінала могуць быць накіраваны на ваяводскія элімінацыі конкурсу савецкай песні (умова ўдзелу — падрыхтоўка дадаткова савецкай песні з польскім тэкстам). Лаўрэаты папярэдніх аглядаў не могуць паўтараць рэпертуар.

Агляд — двухступенны. Раённыя агляды — у Беластоку, Гайнаўцы і Сямяцічах — трэба правесці да 29 лютага 1988 г. Лаўрэаты раённых аглядаў закласіфікуюцца на цэнтральны агляд, які адбудзецца ў днях 12–13 сакавіка 1988 г.

Падзел раёнаў:

Беласток — аддзелы: горад Беласток, раён Беласток, Саколка, Гарадок, Міхалова;

Бельск-Падляшскі — аддзелы: Бельск-Падляшскі, Орля;

Гайнаўка — аддзелы: г. Гайнаўка, Гайнаўка-гміна, Чыжы, Нарва, Нараўка, Дубічы-Царкоўныя, Кляшчэлі, Чаромха;

Сямяцічы — аддзел Сямячічы;

Дуброва-Беластоцкая — аддзел Дуброва.

Агляд праводзіцца ў катэгорыях (без падзелу на салістаў, дуэты і іншыя групы):

1. а) — апрацаваная фальклорная песня (падрыхтаваная без інструктара);

б) — апрацаваная фальклорная песня (падрыхтаваная з інструктарам);

2. а) сучасная песня (падрыхтаваная без інструктара),

б) сучасная песня (падрыхтаваная з інструктарам).

Камісія ацэніць спевакоў паводле такіх крытэрыяў, як падбор рэпертуару, інтэрпрэтацыя, галасавыя ўмовы, агульны артыстычны выраз.

**Выдаткі, звязаныя з арганізацыяй агляду, пакрыюць арганізатары і суарганізатары.**

Запрашаем прыняць удзел!




# Яшчэ раз пра „Пана Тадэвуша“

**Прачытаў у 45-й „Ніве“ заметку А. Барскага аб праблемах з беларускім „Панам Тадэвушам“ і тут жа пацягнулася рука да пяра. Не згодзен толькі з тым, што выданне гэтага твора 10-тысячным тыражом для польскіх беларусаў было памылкай, бо надта, быццам, многа. Так, і ў Мінску ў пачатку 80-х гадоў выйшаў пераклад Б. Тарашкевіча, які знізіў канкурэнтаздольнасць выдання. А да таго ж у 1985 годзе выйшаў яшчэ поўны пераклад азначанага твора Я. Семяжонам на беларускую мову, гэта яшчэ 12 тысяч.**

**Можа, зрэшты, і ёсць падстава шкадаваць пра завялікі тыраж, але прыйдзе час, калі гэтыя тысячы экземпляраў мы, беларусы, будзем успамінаць з гонарам. Калі? Калі ад жывёльнага пачуцця несвядомасці, ніякавасці пяройдзем да людскога асэнсавання таго, якія мы людзі.**

Так, мы аднолькавыя і ў Польшчы, і ў БССР. Беларусы. І нам у Беларусі аказалася замнога 12 тысяч, хоць нас 10 мільёнаў занадта вучоных, каб ацаніць цудоўны твор пра нас жа, беларусаў, цікавыя пераклады, бліскучыя ілюстрацыі, якімі парадавалі кнігавыдаўцы Ольштына (маст. Андрыёлі) і Мінска (маст. Шаранговіч). А на мільён эстонцаў у Эстоніі не хапае двухсот тысяч экземпляраў нацыянальнай энцыклапедыі. Гэта значыць: кожная эстонская сям'я лічыць за гонар мець добрую эстонскую кнігу. А мы, беларусы? Арыфметыка простая: калі тысяча збярэцца, дык адну кніжку купяць.

Але! Не хачу ганьбіць свой народ. Праз стагоддзі ён быў пазбаўлены права на нацыянальную свядомасць, гістарычную памяць. Гэта патроху вяртаецца толькі цяпер. І той, у каго прачынаецца чалавечая гордасць, павінен будзіць яе ў тых „тутэйшых“, якія яшчэ не ведаюць, што ёсць іх Радзіма — Беларусь, тая, што ў душы ў таго, хто тут нарадзіўся.

Я таксама калісь па статкавым інстынкце купляў кніжкі „толькі дэфіцытныя“, толькі такія, як усе, толькі на рускай мове. І калі з'явіўся Семяжонаўска-Шаранговіцкі „Тадэвуш“ у выдатнейшым паліграфічным выкананні, толькі хадзіў вакол, баючыся гэтую кніжку купіць.

Але час змяняе нас. І хоць не па Дарвіну, але я пачаў эвалюцыю ад малпы да чалавека. І ўжо калі да мінскіх магазінаў дайшоў ольштынскі Тарашкевічаўска-Андрыёлеўскі „Тадэвуш“, я ўжо імкнуўся да яго, як да крыніцы, каб наталіць духоўную прагу, хоць і каштаваў ён не 350 злотых, як у Польшчы, а 7 руб. 88 кап., г.зн. удвая даражэй. Купіў я і мінскае выданне ў перакладзе Семяжона. Набыў і Дуніна-Марцінкевіча пераклад двух першых быліц. Не таму, што захацеў дапамагчы „разграбаць залежы беларускай духоўнай культуры“, а таму, што такая цяпер патрэба душы. Яе цяжка растлумачыць. Як невытлумачальна тое, што мой брат, які жыве ў Чалябінску, Робэрта Мэйля чытае па-ўкраінску, свайго любімага Лема — па-польску, а Караткевіча, зразумела, — па-беларуску. Для культурнага чалавека проста няма прэстыжных і непрэстыжных культур. Так што тыя 10 тысяч — гэта справа гонару і для польскіх беларусаў, і для саміх палякаў.

**В. Мартыненка, г. Мінск**

# Пра матуральныя работы

(Працяг са стар. 4)

ных, смелых людзей, якія не гнуцца перад цяжкасцямі". У Гені многа асабістых думак, параўнанняў — цікава гэта чытаецца. Напрыклад, пра раманс М. Багдановіча „Зорка Венера" яна піша: „Ён мне спадабаўся і таму, што я, як кожны малады чалавек, ахвотна чытаю пра любоў. Гэта ўжо такая наша чалавечая натура. „Зорка Венера" прасякнута рамантыкай, паэт гаворыць, што каханне павінна быць чыстае, моцнае, яго можа перамагчы толькі смерць". Мне прыемна, што ў ліцэі мая любімая ў маладосці „Зорка Венера" трывае як вечны сімвал прыгожага і пераможнага кахання. Геня падкрэслівае актуальнасць Багдановічаўскай паэзіі, яе адносіны да роднай прыроды, беларускай мовы і ўсяго нацыянальнага. „Паэт гаворыць, што мы, беларусы, не павінны дапусціць да таго, што наша мова будзе знішчана, мы павінны падтрымліваць традыцыі і перадаваць іх наступным пакаленням. Артыкул гэты (Багдановіча пра мову) памог мне зразумець, што маё жыццё непарыўна звязана з беларускім народам, яго культурай, гаворкай".

Хочацца прывесці ацэнку работы, запісаную чырвоным алоўкам па-беларуску: „На маю думку, работа вельмі добрая. Напісана граматна, без памылак, выказаны свае думкі. Чытаецца з вялікім зацікаўленнем, а нават з прыемнасцю. Напісанае сведчыць аб сталасці яе аўтара. Выдатна".

✲

У канцылярыі ліцэя размаўляем аб работах, аб навучанні. Са мной выдатныя шматгадовыя выкладчыцы ліцэя Вера Рышчук і Зінаіда Дземянюк. Запісваю іх увагі.

Калі ў трэцім і чацвертым класе вучань мае на канец года 4 або 5 і напіша работу на матуры на 5, то такі вучань вызваляецца ад вуснай матуры па гэтаму прадмету. Ёсць такія. Ёсць многа вучняў, якія не вучыліся беларускай мове ў пачатковай школе, але ў ліцэі яе вывучылі так добра, што былі звольнены з вуснай матуры. Для таго, аднак, каб дасягаць добрых вынікаў, ідзе напружаная, пастаянная праца. Ужо трэці год Вера Рышчук вядзе прадметны гурток беларускай мовы, у якім падрыхтоўвае тых, хто не вывучаў гэтага прадмета ў пачатковай школе.

— Не кніжныя словы, не завучаныя з падручніка фразы, а ўласную думку — вось што хочам ацэньваць, — гавораць мае субяседніцы.

„Хто саліднейшы: хлопцы ці дзяўчаты?" — пытаю. Вера Рышчук гаворыць, што ў яе — дзяўчаты. Зіна Дземянюк — што ў яе хлопцы сур'ёзней падыходзяць да справы. Але гэта залежыць у многім і ад профілю класа. У матэматычным класе будуць думаць больш лагічна. І гэта будзе мець уплыў і на беларускую мову.

Доўга ўжо ляжаць матуральныя работы і чакаюць, каб імі зацікавіліся, напрыклад, студэнты і вучоныя, вось хоць бы з беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.

І вельмі важная крытычная заўвага настаўніц: уведзена вось налічванне сярэдняй ацэнкі на канец вучобы ў ліцэях з васьмі важнейшых прадметаў. Такая сярэдняя чым вышэйшая, тым лепш для выпускніка, яна дае пункты пры паступленні ў вышэйшыя школы. На жаль, у беларускіх ліцэях сярод гэтых васьмі прадметаў асветныя ўлады не знайшлі патрэбы паставіць беларускую мову і літаратуру. Выкладчыцы беларускай мовы ў ліцэі лічаць, што гэта зроблена няправільна і што беларуская мова павінна да такіх прадметаў залічвацца. Настаўніцы ўжо адчуваюць недаацэньванне з боку вучняў гэтага прадмета — абы тройка.

А можа б усё ж, як дзевяты прадмет, далучыць да васьмі важных і беларускую мову?

**В. Балкавыцкая**

# Пан на Баброўніках

(Працяг са стар. 5)

300 квадратных метраў гэтай „баазеры". Будзе каштаваць звыш мільёна злотых.

Выйшлі мы на адну з многіх тэрасаў, якія ўпрыгожваюць дом. У даліне шырокімі закрутасамі плыла рака Свіслач. Гэта ўжо дзяржаўная граніца.

— Вось тут, — правёў рукою Яўгеній Бараўскі, — усё маё, поле і сенажаць, аж па самую граніцу. Ля ракі, вунь там, рашыў я выкапаць сажалкі. Буду рыбу разводзіць.

Пайшлі мы на чай.

— Вось тут я пакуль што жыву, — перад намі стаяла тыповая для Беласточчыны сялянская хата. — Гэта хата яшчэ майго дзядулі. Тут я нарадзіўся.

Ля хаты, на панадворку, стаяў шыкарны „Паланез" вішнёвага колеру.

— Без аўтамабіля я на такой гаспадарцы нічога не змог бы аформіць. Аўтамабіль і тэлефон — гэта сродкі нашай працы аднолькава важныя, што трактар і камбайн.

У цеснаватым пакойчыку дзеці глядзелі нейкую тэлевізійную праграму. Гэта шасцігадовы **Каміль** і двухгадовая **Ілонка** — дзеці Бараўскіх.

— Маем тут адну польскую і аж тры савецкія тэлевізійныя праграмы. Часам ускаквае яшчэ чацвертая. Прыём дасканалы, — кажа пані Бася.

На кухні, занятая вязаннем на прутках, сядзела старэйшая жанчына. Гэта маці Яўгенія — **Марыя Бараўская.** Яна тутэйшая, з Баброўнікаў. Зараз набліжаецца да шасцідзесятага года жыцця.

— Дачка Ірына абсталявалася ў Беластоку, а вось ён, — яна паказвае на сына, — не хацеў заставацца ў горадзе, хаця таксама стараліся мы вучыць яго...

— Я механік, аператар цяжкіх будаўнічых машын, — паясняе Яўгеній Бараўскі. — Бацька пастаянна хварэў і молада памёр. Засталася адна маці, сама не спраўлялася з невялічкай тады гаспадаркай. І я рашыў пакінуць працу ў Беластоку. Быў час, што на нашым рахунку ў банку лічылася аж 16 мільёнаў даўгоў. Купілі зямлю, машыны, будавалі свінарнік — усё на крэдыт. Банк са мною турбот не мае. Зараз мой гадавы прыбытак даходзіць да сямі мільёнаў злотых. На сплаты крэдыту і на розныя падаткі спатрэбіцца мне ў год мільёны 2.

І пасля кароткай хвіліны роздуму, ён дадаў:

— Усё аплоціцца, толькі трэба самому сабе паверыць і рабіць з размахам, шырокамаштабна. Я гадую свіней, летам кармлю бычкоў, прадаю збожжа і лубін.

Пані Бася ўстала ад стала.

— Пара нам упраўляцца, — сказала яна. І пабачыў я яе з віламі, як выносіла гной з кароўніка, а затым разам з цешчаю цягала вёдрамі ваду, каб напаіць чатыры дойныя кароўкі, якія яны пакінулі сабе на зіму. *„Вось табе і пані на Баброўніках ды на іншых суседніх вёсках!"* — уголас падумаў я.

Пані Бася, аднак, адказала мне, што яна свайго выбару не шкадуе.

— Яшчэ год, два і станем жыць болей спакойна, — кажа Яўгеній Бараўскі. Неяк я не веру ў гэты яго спакой. Ён не з тых, хто без новых ідэй жыць можа. Ужо зараз запісаўся на курсы каўбаснікаў. Хацелася б яму, для прыкладу, свае ўласныя свінкі і бычкі, замест прадаваць дзяржаве, на месцы перарабляць на каўбасу. Усё ж дазволена, што не забаронена правам!

**Віктар Рудчык**



У Баброўніках 75 хат, але ўсяго 4 гаспадары.

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

# Братазабойчая разня

Таксама як і ў папярэднія напады, крыжакі прычакалі сухой пагоды, якая звычайна ўсталёўваецца на літоўскіх і беларускіх землях у канцы лета, і рушылі на ўсход. У пачатку жніўня 1390 г. небывалыя як на тыя часы, больш за саракатысячныя вайсковыя сілы на чале з Вітаўтам і вялікім комтурам Конрадам Валенродам з трох бакоў: з Прусіі, Жмудзі і Лявоніі (Інфлянтаў) „сцягнуліся ўсе ў Коўна, дзе Вілія ў Нёман упадае, і адтуль проста на Трокі пайшлі. Здабылі іх з замкам частымі штурмамі, спалілі і разбурылі ды пайшлі на Вільню" — падае „Хроніка літоўская і жамойцкая".

Гэтую жудасную навалу, якая пасля сябе пакідала толькі попел і трупы, запыніў над ракой Віліяй пад самай Вільняй вялікі князь Скіргайла. Заўважма, што Скіргайлава армія складалася ў асноўным з беларускага рыцарства ды невялікай колькасці польскага войска, якое прыслаў кароль Ягайла ў дапамогу брату.

Бітва на рацэ Віліі была зацятая, жорсткая. „Літва і Русь адвагай, як то ў доме „сваім" вылучаліся", — чытаем у „Хроніцы", — а „немцы ж зброяй і магутнасцю перамагалі".

Не цяжка сабе ўявіць, як лёгка ўзброеныя беларускія воі адбіваюць нагглы націск закутых у сталь крыжакоў, як намацваюць слабыя месцы ў іхняй адмысловай нямецкай, французскай ці англійскай брані і трапляюць у іх пікамі, рагацінамі, тапарамі, валяць з коней і дабіваюць нажамі. Аднак часцей самі валяцца на зямлю пад ударамі варожых мячоў, пранізаныя дзідамі, раструшчаныя закаванымі ў сталь аграмаднымі крыжацкімі коньмі.

„Працягвалася бітва ад заранку аж да поўдня, так што трупы і параненыя з абодвух бакоў усланні ўсё поле з абодвух бакоў", — чытаем у той жа „Хроніцы". І не стрывалі Скіргайлавы воі, уздрыгнуліся і паступіліся „ад мноства нямецкага войска і англічан" ды павярнулі да Вільні і пабеглі „дзе хто змог".

Паражэнне было цяжкое, на полі бою палягло многа князёў, тысячы вояў, але Скіргайла не разгубіўся: адышоў „абароннаю рукою" пад Старыя Трокі і пачаў збіраць новую армію ды нападаць на тылы і флангі ворага. А Вітаўт Кейстутавіч з Конрадам Валенродам 4 верасня аграмаднай арміяй „аблажылі" Вільню.

Драўляную крэпасць у Крывым горадзе — старажытнай ужо ў тыя часы часткі Вільні — абаранялі беларускія, літоўскія і польскія воі на чале з родным Ягайлавым братам Карыгайлам-Казімірам, князем мсціслаўскім. Далёка не ўсе абаронцы Крывога горада былі шчырымі прыхільнікамі Альгердавічаў. Зрэшты, не толькі тут, але ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім наступіў тады падзел „на дзве часткі, — як сцвярджае аўтар „Хронікі". — Адна частка баяраў і простага народа за Вітаўтам, а другая за Скіргайлам стаяла і спрыяла". Як толькі аблога акружыла Крывы горад, Вітаўтавы прыхільнікі ўзнялі ў крэпасці бунт, знутры яе падпалілі і кінуліся рэзаць Скіргайлавых прыхільнікаў. Гэтага толькі і чакалі аблажнікі — адразу ўварваліся ў крэпасць. З полымя ды разні князю Карыгайлу ўдалося неяк выкараскацца ды патайным выхадам прабіцца за крэпасць. Аднак тут яго звочылі і схапілі немцы ды павалаклі да Вітаўта. І калі гаворыцца, што гэта была братазабойчая вайна, якраз па адносінах паміж стрыечнымі братамі Вітаўтам і Карыгайлам найяскравей відаць яе крыважэр-

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Навагодняя казка

(урыўкі)

Такое бывае толькі ў навагоднюю ноч.

На высозным небе дрыжаць-пераміргваюцца зоркі. З вышыні, быццам чыясьці нябачная рука, месяц рассейвае на прасторы сіняватае святло. Яно асядае на галіны дрэў — апушвае яліны, стогадовы дуб-асілак, высокія асіны, што абступілі заснежаную паляну. Па снезе пабеглі-пакрыжаваліся сляды казуль. А вунь паўз куст ядлоўца быццам нехта правёў баразну. Відаць, прайшоў дзік. Выбраўся ён са свайго логава і падаўся праз паляну, азораную бледным месячным святлом.

Чуйная цішыня застыла ў лесе. Сыплецца з халоднага неба срабрыстая шэрань. Часам лусне кара — гэта мароз спрабуе сваю моц. Вось схаваўся, а потым зноў выглянуў з-за карункавых хмарак месячык, і адразу нешта няўлоўна змянілася на паляне. Нібыта з-пад снегу раптам з'явілася некалькі слупкоў. Стаяць, натапырыўшы доўгія



вушы. Гэта першымі сюды прыбеглі зайцы. А вунь пратупаў, чмыхаючы чорным носам, вожык... Хвіліна, другая... З-за яліны выглянула вострая мордачка хітрага ліса. Пушысты хвост яго замятае па прывычцы сляды. Але дарэмна ён гэта робіць. У такую ноч звяры ніколі не势 стануць паляваць на слабейшых. Зайцы сядзяць ля шэрага ваўка. І той спрабуе ўхмыляцца, хоць ад яго белых іклаў шмат хто на шырокай паляне каля яліны пацепвае вушамі.

З лапак яліны зваліўся камяк снегу. І з вяршаліны на паляну апусціліся вяртлявыя сойкі, вароны. Скокнуў непаваротлівы груган з дзюбай, што быццам адлівала сінявой сталі. Трыста гадоў пражыў на свеце гэты груган. Але кожны раз у навагоднюю ноч ён прылятае сюды, на паляну, на вялікую нараду звяроў і птушак. У гэтую ноч і звяры і птушкі разумеюць адзін аднаго. Кажуць, яны разумеюць і мову таго чалавека, які



ніколі іх не крыўдзіў, а дапамагаў.

На яліне снуюць цікаўныя сініцы, папаўзні. Дзяцел нахіліў галаву ў чырвоным берэціку. Вераб'і прытуліліся каля старэйшых сясцёр-галак. Патрэсквае ў галінах дрэў мароз. А можа, гэта трашчыць сухое ламачча? Так і ёсць. З гушчару выходзяць прыгажун лось з рагатай каронай на галаве і мядзведзь, які дзеля такой урачыстасці выбраўся з берлагу.

— Што ж, пара, — паціраючы лапай куртатыя вушы, сказаў мядзведзь. — Усе станавіцеся ў карагод. Дазваляю пачынаць навагодняе свята.

Звяры і птушкі спявалі і танцавалі вакол яліны. Часам з густых лапак падала на паляну шышка. Часам патрэскваў у кары бліжніх дубоў мароз. Звяры і птушкі не звярталі на гэта асаблівай увагі. Яны радаваліся, што малады сасоннік пагусцеў, падрос, з'явілася шмат сініц, снегіроў, якія, быццам чырванабокія яблыкі, сядзелі на бліжніх асінах. Звяры і птушкі радаваліся, што іх не пакрыўдзіў чалавек. Яны вельмі хацелі, каб у гэту светлую навагоднюю ноч і ён стаў у іхняе кола — паміж ласём і мядзведзем — і закружыўся ў імклівым карагодзе. Яны ж у тыя хвіліны разумелі чалавечую мову, як і чалавек разумеў мову звяроў і птушак...

*

Аленка ішла следам за дзедам і ўяўляла, як на палянку збягаюцца зайцы, як вавёрка, быццам рыжая маланка, мільгае ў гушчары галля, як лось і мядзведзь пачынаюць святочны карагод. Яны, вядома ж, прыйдуць сюды, і дзед навучыць яе разумець і птушыную, і звярыную мовы. І будуць яны вадзіць карагод разам з вожыкам, з цецерукамі, з непаседлівымі сойкамі...

**Міхась Даніленка**

# 1 СТУДЗЕНЯ

У Навагодні дзень — 1 студзеня 1919 года Часовы рабоча-сялянскі ўрад Беларусі выдаў маніфест, які абвяшчаў Беларусь суверэннай Савецкай Рэспублікай.

Абвяшчэнне беларускай савецкай нацыянальнай дзяржаўнасці было важным актам у гісторыі беларускага народа. А магло гэта стацца толькі дзякуючы Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, 70-годдзе якой мы адзначалі ў гэтым годзе.

З нагоды гэтага важнага для беларусаў навагодняга акту мы друкуем верш аб беларусах чувашскага паэта.

**Аляксандр Цімбай**
(Чувашыя)

## УДЗЯЧНАСЦЬ

**Беларусы-сябры,**
**Залатыя ў вас рукі і сэрцы!**
**Галаву перад вамі**
**Схіляю і я да зямлі.**
**Як нікому,**
**Так цяжка было вам вайною, паверце.**
**Толькі вы не стагналі,**
**А супраць навалы ішлі.**

**Вы жылі ў зямлянках:**
**Вайною згарэлі ўсе хаты.**
**Ваша бульбачка-бульба**
**Ад смерці магла ратаваць.**
**Свой апошні кавалак**
**Дарылі вы мужным салдатам.**
**Веліч вашага сэрца —**
**Не ведаю, чым вымяраць.**

**Я ля Оршы упаў.**
**Сцёк крывёю тады у трызненні,**
**Падкасіла, чужацкая сталь.**
**Падабралі мяне беларусы**
**(Запомніў я тое імгненне)**
**І занеслі у вёску лясную —**
**Ваенны шпіталь.**

**Я ляжаў,**
**Паміраў там ад раны балючай.**
**Як хацелася жыць**
**Той пакутнай дзівоснай вясной!**
**Думаў я, што не выжыву,**
**Думаў, а вы так гаюча**
**Падтрымалі мяне, маладога,**
**Сваёю крывёй.**

**Так сышліся тады**
**Дзве крыві, чуваша й беларуса, навекі.**

**Маё сэрца жыло**
**І пра смерць пачало забываць.**
**Як шкада,**
**Малавата аддзячыў за ласку і лекі,**
**Я да Дня Перамогі хацеў,**
**Ды не змог, ваяваць.**

**Ваша кроў, можа, нават**
**І сёння пульсуе у сэрцы,**
**Бо любоў не слабее**
**Да верных і крэўных сяброў.**
**Вам — ўдзячнасць за ўсё.**
**Хай шчаслівa жывецца**
**Беларусі нязломнай:**
**Яна заслужыла любоў!**

**Пераклад Ю. Свіркі**




**Мікола Чарняўскі**

## СОНЕЧНЫЯ СЛОВЫ

**Ёсць словы сонечныя ў нас —**
**Сябрам сваім заўсёды**
**Жадаем шчыра:**
**— Ў добры час!**
**Віншуем:**
**— З Новым годам!**

**А Новы год ужо ідзе**
**Руплівым крокам нашым.**
**Мы знаем:**
**Ён не падвядзе,**
**Яму ад сэрца скажам:**
**— Калі ласка!**



**А гэта значыць, —**
**Мы расцём,**
**Як волаты, дужэем.**
**На ўсіх вятрах**
**З самім жыццём**
**Мудрэем і мужнеем.**

**А гэта значыць, —**
**Светлы шлях,**
**Што сцелецца прад намі,**

(Працяг на стар. 10)



**Кайсын Кулієў**

народны паэт Кабардзіна-Балкарскай АССР

### ТАМУ, ХТО ПРЫЙДЗЕ ЎСЛЕД ЗА МНОЙ

Даруй, не ўсе каналы з іх мастамі
Я пабудую ўласнымі рукамі.
Пасля мяне табе, нашчадак мой,
Работы хопіць. Над табой часамі
Кружыцца будуць беды груганамі,
Я [illegible] над маёй кружылі галавой.

Ты да крыві не раз параніш ногі,
Кіруючы праз перавал круты,
І суму не пазбегнеш, і трывогі,
І, можа быць, не раз пасля дарогі,
Як я калісьці, стомішся і ты.

Усёй зямлёй, як спадчынай маёю,
Валодаць будзеш ты сваёй чаргою.
Ты будзеш слухаць свету цішыню,
Глядзець на дождж, нібы ён над зямлёю
З дня існавання льецца ўпершыню.

І ты захочаш воляю разумнай
Пераіначыць спадчыну маю,
І песню нашых дзён палічыш сумнай,
І паспрабуеш праспяваць сваю.

Не ўмеем мы, не верачы былому,
Даверыць сэрца вопыту чужому.
Каб праўду ад маны адмежаваць,
І мудрасць мудрых правіл, хоць старую,
Каторай я сягоння наследую,
Ты сам адкрыеш, каб наследаваць.

Пераклад А. Куляшова.



Размалюйце: 1 — чорным колерам, 2 — чырвоным, 3 — блакітным, 4 — карычневым, 5 — жоўтым, 6 — аранжавым.

# Хто калі сустракае Новы год

**Афганцы** спраўляюць Новы год у сакавіку. Дзеці і дарослыя спаборнічаюць у запуску папяровых змеяў: чый змей падымецца вышэй і даўжэй пратрымаецца ў паветры? Узнагароджваюць тых, хто змайстраваў самы прыгожы, незвычайны змей.

**Бірманцы** спраўляюць Новы год у красавіку. Гэта ў іх свята Вады. На вуліцах стаяць бочкі і вёдры з вадой. Паліва-



юць адзін аднаго, льюць ваду з вакон і дзвярэй.

**У Японіі** сустрэча Новага года адбываецца раніцай 1 студзеня. Як толькі пачынае світаць, людзі апранутыя па-святочнаму, выходзяць на вуліцу, каб сустрэць узыход сонца. І калі яго першыя промні асвятляюць зямлю, усе пачынаюць віншаваць адзін аднаго і абменьвацца падарункамі, нават з незнаёмымі людзьмі.

**У Шатландыі** ўжо 31 снежня кожны дом адкрываецца для ўсіх: заходзь, частуйся! Толькі не забудзь памяшаць агонь у ачагу. Той, хто памяшае агонь, уваходзіць у дом з сяброўскімі намерамі. І робіць ён гэта моўчкі.

**У Лондане** ў навагоддзе кожны можа пайсці на Трафальгарскую плошчу і выкупацца ў фантане ва ўсім адзенні. Звычай дазваляе. І ахвотныя ёсць.



**У Іспаніі** звычай з ядой. Перад тым, як гадзіннік праб'е поўнач, трэба паспець з'есці роўна дванаццаць вінаградзін (адна вінаградзіна на адзін удар гадзінніка). Тады вас чакае ў Новым годзе ўдача.

**У Швейцарыі** Новы год лічаць і святам для сабак. Тыя, хто мае сабак, з наступленнем Новага года вядуць іх на ўзлессе. Там чакае Дзед Мароз з нізкай сардэлек на шыі. Якім радасным брэхам сустракаюць яго чатырохногія!

**У Расіі** калісьці Новы год пачынаўся 1 верасня. Так было да 1699 года, калі цар Пётр І указам загадаў, дзеля лепшай згоды з еўрапейскімі народамі, пачаткам года лічыць 1 студзеня.



## Вучнёўская творчасць

### КРУГЛЫ ГОД

Усе знаюць, нават дзеці,
Што круглы год ёсць на свеце.
Ён дванаццацю ўладае,
Усё добра пра іх знае.

Першы з іх — гэта студзень.
Хаваюцца ад яго людзі,
Бо калі пачнецца ён
На дварэ мароз, шэрань.

Другі месяц — гэта люты.
Азёры, рэчкі ільдом скуты,
На дварэ зіма гуляе,
Усіх марозам аблівае.

Сакавік — то месяц трэці.
Цешацца ім усе дзеці,
Бо ўжо блізкая вясна,
Сагрэе сонейкам яна.

Красавік — чацвёрты з іх.
Таксама цешыць людзей усіх.
Кветку, што завецца сон
Усім прыносіць ён.

Май — апошні месяц вясны.
Зацвітаюць усе сады,
Многа працы маюць пчолы.
Кожны чалавек вясёлы.

Чэрвень, як гавораць людзі,
Лета са сну будзіць.
Лета за ўсё цяплейшае
І найпрыгажэйшае!

А калі ліпы цвітуць,
Над імі грозна пчолы гудуць —
Гэта ўжо ліпень, вядома,
Ніхто не сядзіць дома.

Жнівень, жніво ўжо прыйшло!
Усё жывое ў поле пайшло.
Людзі працы хлеб будуць мець,
Вясёлую жніўную песню пець!

Верасень — восень прыйшла,
На полі ветрам загула,
Сонца ўжо прыгасае,
Бледны колер яно мае.

Кастрычнік — зіма ўжо блізка, —
Дождж і балота, слізка.
Адлятаюць у вырай птушкі,
У розныя дзіркі хаваюцца мушкі.

Перад зімой — гэта лістапад.
Голы лес, бязлісты сад,
Снег упаў, мароз настаў,
Рукамі сваімі свет зноў абняў.

Снежань — апошні месяц за ўсе —
Не шкадуе марозу зіме.
Ну, і няма часу дзівавацца —
І зіме калісь трэба пачацца.

Раман Давідзюк
Пачатковая школа ў Барысаўцы

(Працяг са стар. 9)

### СОНЕЧНЫЯ СЛОВЫ

Вядзе да сонца
У працяг
Пад яснымі сцягамі.

А гэта значыць, —
Быць вясне.
І ў студзеньскую замець
Святло
Што сонца ўсход нясе,
Хмурынкам не запляміць.

А гэта значыць, —
Міру быць,
Братэрству,
Дружбе,

Працы.
Зямлю бацькоў душой любіць,
За мір заўжды змагацца.



А гэта значыць, —
Тут і там,
І ў дзетсадах, і ў школах,
Звінець шчаслівым галасам,
Звінець званкам вясёлым.

Ёсць словы сонечныя ў нас —
Усім сябрам-народам
Жадаем шчыра:
— Ў добры час!
Віншуем:
— З Новым годам!

---

Мікола Вяршынін

### СУСТРЭЧА

Новы год на падыходзе,
Валіць люд наўкол гарой.
Мы нікуды не выходзім,
Дома удваіх з сястрой.

Мы і так не засумуем,
Праўдзём цікава час.
Ды званок раптоўна чуем:
Нехта непакоіць нас.

Адчыняю хутка дзверы —
Там Снягурка, Дзед Мароз.
Я вачам сваім не веру,
Да падлогі аж прырос.

— Вас віншуем з Новым годам.
Падарункі вам нясём.
Хай жа будуць тут заўсёды
Радасць, шчасце на ўвесь дом.



